БІБЛІЯТЭКА БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ

АНАТОЛЬ
ГРАЧАНІКАЎ

# ВЕРАСЕНЬ

Вершы

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ
ЛІТАРАТУРА»
1984

## ЭКСКУРСІЯ

Перад вамі — зямля продкаў маіх і дзяцей.
Не любіць яна чужынцаў,
любіць яна гасцей.
Тут вас накормяць і спаць пакладуць
і на дарогу дарунак дадуць.
Такі ўжо звычай на нашай вольнай зямлі.

Шмат якія цары, імператары і каралі
хацелі ўправіць яе
ў пярсцёнак славы сваёй,
як дзівосны бурштын.
І ўсе як адзін
на шаткоўнях войнаў
падданых сваіх шаткавалі,
ды нават тое, што мелі,— гублялі.

Звярніце ўвагу:
ніколі народ мой
нікога не прыгнечваў.
У цемры невуцтва — словам Скарыны
просты люд ачалавечваў.
Насельнік дрымотных пушчаў,
выспаў, балот
дзяліў з Каліноўскім
думак бунтоўных узлёт.

Той, хто аднойчы
зведаў гаючую прагу волі,—
рабом не будзе ніколі.
І, як сімвал сусветнай еднасці змагароў,
дагэтуль гарыць на парыжскіх вуліцах
Урублеўскага кроў.

Зірніце направа:
тут палацы і храмы стаялі,
званы звінелі,
на веча народы склікалі.
Калі ж нахрапам
лезла ў край наш
гайня атлумленых ворагаў —
ірваліся яны бочкамі пораху:
старажытнага дойлідства творы
лёс адзіны з народам мелі
у шчасці і ў горы.

Зірніце налева:
гэта помнікі XX стагоддзя — мемарыялы,
ўзніклі яны пасля фашысцкай навалы.
Чытайце надпісы на магільных грудках,
можа, стрэнеце прозвішча брата ці земляка.

А цяпер раім усім
адгарнуць старонку першага тома
Беларускай Савецкай Энцыклапедыі
і прачытаць — «Акупацыйны рэжым».
Страціла Радзіма мая
столькі сыноў,

колькі ў лесе дубкоў,
столькі дачок,
колькі ў небе аблок,
столькі дзетак,
колькі ў лузе кветак.
Праліла столькі слёз,
колькі ў полі рос...

Пакланіцеся гэтай зямлі на развітанне.
...Шчаслівай дарогі!

*1971*

## ВЕРА

Я кволы быў, але не хваравіты,
Я рана ўцяміў, што такое смерць.
Ад дэгапацыі ўспамінаў —
дынамітам
Майму маленству праз гады грымець.

У гурбах снегу,
Між скалелых хатак,
Маёй не заўважаючы слязы,
Мяне ад галавы да самых пятак
Абмацвалі зімою маразы.

На фронце бацька.
Маці — партызанка.
Цяпла у хаце нашай не стае.
І я з'язджаў з гары крутой на санках,
Каб уцягнуць ламачча на яе.

Гарэў агонь.
Агонь цяпла і веры.
У грубцы і ў вачах братоў маіх.
Мы нанач шчыльна зачынялі дзверы,
Але на ключ не замыкалі іх.

*1960*

## ЗАВОДСКІ АРКЕСТР

Вечарамі пасля работы
Мы гуртом вывучалі ноты.
Так стараннa
мы дзьмулі ў трубы —
Распухалі за вечар губы.

Непакоіўся нават дома
Дырыжор,
старшыня мясцкома,
Бо навокал хадзілі плёткі:
— У трубу паляцелі сродкі...

Мы ж упарта ганялі гамы,
Аж дрыжэлі
двайныя рамы,
А у вокны глядзелі зоры
І разгневаныя вахцёры.

Ды аднойчы на сцэне сталі —
Шэпт адразу прайшоўся ў зале.

Хоць грымелі спачатку гукі
І дрыжэлі, як нашы рукі,
Ды адолелі тэмп цягучы
І зліліся ў адно сугучча.

**А як грымнулі воплескі ў клубе,**
**Анямеўшы ад хвалявання,**
**Мы яшчэ прыцiскалі трубы,**
**Як кругі для выратавання.**

*1961*

* * *

Дзяжурны пакой машыністаў —
Агенцтва дарожных навін —
Аглушаны рыпам і свістам
Засмяглых ад рэйсаў машын.

Хаця скразнякі магістралі
Працялі яго да касцей,
Ён пільна ўглядаецца ў далі,
Ён новых чакае гасцей.

Пра ўсё, што людзьмі пераэкыта,
Размовам тут доўга палаць.
І будуць навіны
транзітам
Да станцый далёкіх спяшаць.

Дзяжурка ж — ураз анямее,
Хоць ты ў адзіноце крычы.
І доўга яе чырванеюць
Бяссонныя вочы ўначы...

*1961*

## ЁН БЫЎ ШЧАНЁМ

Ён быў шчанём гарэзлівым, гуллівым,
І калі з ім бяскрыўдна жартавалі,
Ён не брахаў, а радасна смяяўся,
Пазнаўшы клопат, ласку чалавека.
І хараство зямнога існавання.
Ён сяброваў п курамі і гусямі,
Свіней асцерагаўся інстынктыўна,
З катом жа нечакана так здружыўся,
Што дазваляў яму вылізваць міску.

Падрос шчанюк.
І, гнуткі, як спружына,
Стаў насцярожана вадзіць вушамі,
Калі адчуў на ганарлівай шыі
Уладны дотык скураной палоскі.
Звінеў ланцуг.
І дрот дрыжэў трывожна
Антэнаю, што шле наўкол сігналы
Сэрца скатаванага: «Ратуйце!»
Вы чулі, як раз'юшана ён брэша?
Ён вас баіцца, вам не давярае.
Калі сам гаспадар наўмысна жорсткі,
Чаго ж чакаць яму ад незнаёмых?

*1962*

## КРУГЛАЯ ПЛОШЧА

Ты — пачатак усіх дарог,
Што зліваюцца ў шлях адзіны,
Плошча круглая!
Ты — вянок
Беларусі, маёй Радзімы.
Колькі ўплецена ў ім падзей,
І надзей, і трывог, і смутку!
Задуменная плынь людзей
Тут цячэ і цячэ ціхутка.

Плошча круглая!
Ноччу і днём
Я схіляюся нізка-нізка
Перад вечным тваім агнём,
Перад вечным тваім абеліскам.
Ты — мой компас, што ўдаль вядзе.
На крутых пуцявінах веку
Скіравана у новы дзень
Стрэлка Ленінскага праспекту.

*1963*

## ТОЙ ТАНЕЦ

Лучыну мы палілі з братам,
Змрок разганяючы. Але
Ад спеваў горкіх слепла хата,
Адна ўцалелая ў сяле.

Браў бубен я бразгучы, плоскі.
Каб адагнаць і боль, і страх,
Я так лупіў, што адгалоскі
Звіняць дагэтуль у вушах.

Ляцелі пары зухавата.
Па цёмных сценах — цені ўслед.
Нібы раскручвалася хата
Перад рыўком у белы свет

Ад навакольных папялішчаў,
Ад невымернае бяды...
Той танец плешчацца і свішча
На ўсе басы, на ўсе лады.

*1964*

## МАТАЦЫКЛІСТЫ

*І. Палешуку*

Матацыклісты шпараць па шашы.
Паветра рэжуць, як электрапілы,
У рокаце — надрыўны крык душы,
Нібыта рух высмоктвае з іх сілы.

Што думаюць, сціскаючы рулі,
Яны ў рухомай гэтай адзіноце,
Калі абрысы неба і зямлі
Знікаюць на бязлюдным павароце?

Ім сутнасць руху хочацца спазнаць
І падміргнуць свайму былому хвацка.
І хлопцы ашалелыя ляцяць
Па магістралях Брэста, Бранска, Брацка.

Ім рэжа вочы вецер, сонца, пыл.
Інспектары —
Дзіравяць ім талоны,
А у саміх, відаць, свярбяць далоні,
Ды часам вопыт пазбаўляе сіл.

Яны, пасуравелыя, глядзяць:
Ухабаў менш — спакуса большай стане.
Было дарогу цяжка збудаваць,
Наладзіць рух на ёй — куды складаней.

*1966*

## ЯК ДОБРА...

Як добра, што ёсць яшчэ гэта на свеце:
Дожджык сонечны ловяць дзеці,

Зводдаль порсткія куранняткі
Выбягаюць з-пад крылля маткі.

Як добра, што ёсць яшчэ гэта на свеце:
Гром паблажэла рохкае недзе

І хлопчык абпырсканы весела едзе
Па лужынах цёплых на веласіпедзе.

І не прэюць у лузе пакосы,
І ўвесь свет малады і босы!

*1967*

* * *

Шарпілаўка цячэ ў жыццё, як Сож,
Свае ў яе віры і перакаты.
Апоўначы на сцішаныя хаты
Мядзведзіца схіляе зорны коп.
І ў першароднай цішыні наўкол
Я слухаю, прысеўшы на калоды,
Як вечнасць, асядаючы на дол,
Быцця зямнога запаўняе соты.
Гудуць у небе зоры, быццам восы,
Нябесная дыміцца сенажаць.
Нібы застагаваныя пакосы,
Над лесам хмары сонныя ляжаць.
А вёска спіць. Бязгрэшна. Ціхамірна.
Ад бальшакоў задымленых узбоч.
На ўсё жыццё запрэжаная ў свірны,
Перапаўзае жнівеньскую ноч.
Сапе смактухай успацелай глеба.
З дасвеццем праясняецца смуга.
Не трэба вёсцы дакучаць, не трэба.
Яна сама разбудзіць пастуха.

*1967*

## НА ПАЛЕССІ...

На Палессі — спрадвеку, як быццам званы,
Несціхана сівыя звіняць курганы.

То трывожна набатны, то як ранішні сон,
Над зямлёю плыве іх малінавы звон.

На Палессі маім — курганоў як грыбоў.
Мала ў вёсках унукаў і мала дзядоў.

І над намі з маленства, як быццам званы,
Задуменна сівыя звіняць курганы.

Калыханку спрадвечную чую ўначы:
«Волю цяжка здабыць, ды цяжэй зберагчы.

Я, Палессе, не стану ніколі батрачкай,
Калі сон ваш не стане глыбокаю спячкай...»

Урачыста плыве ў журавіннае ранне:
«Добры дзень вам, нашчадкі!
Добры дзень вам, зямляне!

Хай жа будзе для вас гэты дзень умалотны,
А для вашага сэрца — апошні журботны!..»

**Пойдзе дзень на спачын — звон пaціху**
**ачахне.**
**Як жывіцай, вячэрай Палессе прапахне.**

**І нядрэмна глядзяць нам у вочы яны —**
**Курганы, курганы, курганы...**

*1968*

## АДВЕДКІ

### 1

Не плакала і не спявала
Яна на свеце шмат гадоў.
Журылася, што забывала
Аблічча мужа і сыноў.

І ўжо сягала думкай шчырай,
На попел гледзячы сівы,
У недалёкі вечны вырай,
Дзе ані лета, ні зімы.

І вось, прачнуўшыся аднойчы
На досвітку каля акна,
Прыбралася, бы ў дзень святочны,
З саменькай раніцы яна.

Плыў ранак спелаю шыпшынай.
Даўно не мелася ў старой
Ні гэтай лёгкасці птушынай,
Ні гэтай яснасці былой.

І ў гэты ранак светла-звонкі
З рахманым сонцам на чале
Спявалі пеўні, і даёнкі,
І цапрызыўнікі ў сяле.

Падлеткі босыя трусілі
Да сельсавета нацянькі.
«І ўнукі вось закаласілі...
Бач, звоняць, нібы жаўрукі!..»

Паціху дзверы прычыніла
І, супыніўшыся, здаля
Падворак свой перахрысціла,
Нібы калісьці немаўля.

2

Праз сёлы, бары і палеткі
І праз спачуванні людзей
Маці ідзе у адведкі,
Маці ідзе да дзяцей.

Ідзе не далёка, не блізка,
І сціплана зычаць ёй сіл
Палесся ўсяго абеліскі
І зоркі ўсіх брацкіх магіл.

«Надвор'е хаця б дагадзіла,
Прыпарвае нешта ізноў...»
Ёй толькі б убачыць магілы
Пяці партызанаў-сыноў.

Праз сёлы, бары і палеткі
І праз спачуванні людзей
Маці ідзе у адведкі,
Маці ідзе да дзяцей.

Нясе ў хатулёчку гасцінцы,
Ніхто каб у крыўдзе не быў...
А вечар на кожнай галінцы
Спяваў, непакоіўся, жыў.

Ніхто ёй насустрач не выбег.
«Сыночкі, сыночкі мае!..»
І даўняе гора, як выбух,
Кідае к магілам яе.

3

Спіць бабка Лёкса і не спіць,
Адзіная, як вечнасць.
У галавах яе гарыць
Возера, як свечка.

Азёрных траў прагорклы пах,
Як чад, плыве над ёю.
І сосны чорныя ў нагах
З маўклівасцю святою.

Пад галавою — хатулёк.
Кіёк, спавіты мохам,
Спіць, як натомлены сынок,
Угрэўшыся пад бокам.

Спіць бабка Лёкса і не спіць.
Як Шлях таемны Млечны,
Сузор'е могілак гарыць
Агнём глыбінна вечным.

І ноч жыве ў яе вачах
Незагаюхай-ранай...

А ў абеліскаў на плячах
Масціўся новы ранак.

Пад кручу дым сплываў руды,
Спяшаліся у вёсцы —
Хто на кірмаш, хто па грыбы,
Хто да кагосьці ў госці.

У сонечнай кароне дзень
Чакалі ў кожнай хаце.
І на Палессі ўсіх дзяцей
Будзілі снедаць маці...

*1969*

## СВІТАЕ...

Яшчэ ў небыцці нашчадкі дзяцей нашых спяць.
Унукі і праўнукі нашы! Я чую ўжо ваша дыханне
У мудра-ўрачыстым спакоі лясоў,
што ў азёры глядзяць,
У паху садоў і палеткаў на цёплым змярканні.
Зірніце, як светла смяюцца і ў сне усміхаюцца
дзеці,
Шчаслівую таямніцу хаваюць яны, пестуны,
Бо дакрануцца могуць толькі яны на свеце
Да залатога промня, як быццам да звонкай струны.
Хто і калі, скажыце, сапсаваў нам таемныя гены,
Пачаставаў чалавецтва пітвом варожасці, зла?
Хто выдумаў першы кайданы, турэмныя сцены,
Хто з вас, тыраны, унікнуў смерці і тла?
А на зямлі — спрадвеку вольна смяюцца дзеці,
Шчаслівая таямніца на вуснах у іх цвіце...
І чалавецтва наперад не на галерах едзе,
Чалавецтва ярмо скідае. Чалавецтва — расце!
Пад звон ланцугоў астрожных,
мулкіх этапных кайданаў,
Пад стогны бурлацкай думы, песні высокай зары
Вырас на гэтым свеце Уладзімір Ульянаў,
Вырас і з чалавецтвам мудра загаварыў.
Маўчыце, зласліўцы, смаўжы-крывасмокі,
І вы, хто хавае за Леніна хіжы свой крок!

Маўчыце усе, хто настырна ірвецца ў прарокі,
З людзьмі сёння Ленін гаворыць —
знікае спрадвечны змрок.
Яшчэ ў небыцці нашчадкі дзяцей нашых спяць —
Унукі і праўнукі нашы! Лаўлю я ўжо ваша
дыханне.
Усход чырванее. І думак палёт не суняць.
Світае...

*1970*

## У СТАРАЖЫТНЫМ ПАРКУ

У старажытным парку — дрэвам ніякім не цесна.
Растуць яны, звыклыя да вяселляў,
хаўтур і радзін.
Колькі ў жыцці іх пякло, ліхаманіла, трэсла,
Але не змаўкае песня мудрых іх вершалін.

Нават тады, як панадзяцца сквапныя мышы,
І ў каранях сыцеюць, грызуцца паміж сабой,—
Кожнае дрэва лагодна па салаўю калыша
І слухае неба начное з пяшчотаю і журбой.

У старажытным парку ўлетку стрыгуць газоны.
Даводзяць да ладу кусцікі, каб пад адзін шнурок.
А дрэвы, нібы званіцы, узносяць зялёныя кроны
Туды, дзе вятры віруюць, дзе пыл аж з усіх дарог.

Самых высокіх і дужых пільнуе спрадвеку
маланка.
Гадаўкай абаўецца ды спруцянее сама.
Загояць пісягі асілкі. І светлая калыханка
З зямлі зноў па іх струменіць. Долі ў іх іншай —
няма.

*1970*

## ЛІНЬКА

Лясных палохаючы птахаў,
Слізгаў маланкай, гнуткі, ён.
І пругка узлятаў з размаху
На купіну, нібы на трон.

Сляпіла сытая дрымота,
Цянёк насоўвалі кусты.
І шматгалосае балота
Не варушылася тады.

Калі ж асмужаныя далі
Глыталі змроку зябкі дым,—
Нібы наложніцы, спявалі
Журботна жабы перад ім.

...На дол балотны, цёмна-буры
Вуж, растлусцелы да пары,
Аднойчы вyслізнуў са скуры,
Нібыта з вузкае нары.

Ён віўся, сыкаючы джалам,
У свеце ж, звыклым да ўсяго,
Прырода велічна маўчала,
Не заўважаючы яго.

*1969*

* * *

Ад сытасці ніхто не паміраў.
Але задышкай мучацца ад сытасці.
У доктара мужчына, нібы літасці,
Вымальвае гаючых рэдкіх траў.

Патрабаваў раней. Патрабаваў...
Падзякаваць — было заўсёды некалі.
Цяпер, старанна ўзброіўшыся лекамі:
«Прабачце, што я Вас патурбаваў!..»

І пойдзе. І патыліцу пачухае.
Нібы прыёмнік, сам сябе ён слухае,
Напружваючы аслабелы слых:
Ці не чуваць трывожных пазыўных?

Не верыцца яму, а часам верыцца,
Што да яго ізноў здароўе вернецца.
Шкада, што чалавек так горка мучыцца
І паважаць другіх так позна вучыцца...

*1965*

## ЛАШАК

На росным поплаве — уподбрыкі лашак.
З-пад капытоў — шугаюць густа пырскі.
Калючым німбам — мошкі каля пыскі
І сонечныя зайчыкі ў вачах.
Свет чорна-белы? Толькі ўсё адно
У ім, пярэстым, соладка ў палёце,
Не зведаўшы яшчэ ні «тпру», ні «но»,
Ні аглабель, ні пугі, ні аброці.
На дол упасці. Выкачаць траву.
Адчуць, як мякка адпухаюць жылы.
Сцяжэлую пакласці галаву
На матчыну намуляную шыю.
Узяць скарынку з хлапчуковых рук.
Стаяць. Глядзець з даверам на сабаку.
А ноччу зноў убачыць цёплы луг,
Спрасоння пазяхаючы са смакам...

*1968*

## ЧЫРВОНЫЯ КОНІ

Чырвоныя коні блукаюць у цемры начной.
Прывабна гараць яны цёплымі ліхтарамі.
Туман асядае на грывы ім золкаю сівізной,
Над імі — неба дугою, а зоры — званкамі.
Не зацугляць іх нікому. Ласункаў не возьмуць
яны.
Як ластаўкі, вушы шчабечуць, а вочы —
ў самоце.
Чырвоныя коні. І чорныя курганы.
І птушкі начныя у зорна-трывожным палёце.
У кожнага конь свой: чырвоны, ці чорны, ці белы.
Хто ведае, дзе ён, хто скажа, якой жа ён масці?
Рана ці позна, ён прыйдзе, твой конь уцалелы,
Толькі табе ўжо да грывы яго не прыпасці.
Будзе іржаць ён і біць капытамі здзічэла.
Нават калі ты цураўся яго, не карміў.
Ноч і чырвоныя коні. А можа, то неба асела,
Хмары на выпас пусціўшы,
Прыпаўшы у стоме да ніў.

*1969*

## ПЕСНЯ ВАНДРОЎНІКА

Калі стане жыццё гарчэй палыну
І самотней журбы асін,—
Неўпрыкметку, як гэта было ў даўніну,
У лясы пабрыду адзін.

Не шукайце тады. Не нацкуйце сабак.
Ні ружжа у мяне, ні нажа.
Што вам, дужым, ён зробіць,
Блукальнік-дзівак,
Бяскрыўдны, нібы кажан?

Вы не верце, як раптам успыхнуць лясы
І вам скажуць, што я падпаліў.
Я агонь, нібы кроплі гаючай расы,
Толькі ў сэрцы сваім насіў.

Ён мяне спапяляў, бо я доўга маўчаў,
Не прымаючы крыўду і здзек.
А цяпер я спяваю ў туманных начах,
Я — жывы, начны чалавек.

Змалку выпалі мне на сваёй старане
Спёка, дождж, маразы, слата...
Калі добра вам жыць, дык забудзьце мяне,
І паклічце, калі — бяда.

*1970*

## КАЛОДЗЕЖ КАПАЮЦЬ

Калодзеж капаюць! Калодзеж капаюць!..
Чыстае ўсё на сябе апранаюць.
Не сварацца цёткі. Не кураць мужчыны,
Як быццам сабраліся тут на радзіны.
І вось зажаўцеў пад рыдлёўкамі жвір,
Ільсняны і вогкі, як печаны сыр.
Але не даюць нам яго рассыпаць,—
Новыя зменшчыкі лезуць капаць.
І мы зазіраем уніз ацішэла.
Як снежная гурба, зямля схаладнела.
Унізе ужо застаецца адзін,
Самы дужэйшы з вясковых мужчын.
Ён там падганяе дубовыя цамры,
І сумна яму аднаму, і упарна,
І многа дарадцаў, што зверху крычаць,
Іх дзядзька не чуе і просіць маўчаць.
Ён ведае: з крыку такога — бяда,—
Мутнаю будзе заўсёды вада!
І вось ён нырнуў у дубовую клець.
Зараз жыўцы б яму не праглядзець,
Яны завіруюць, заходзяць па дне,
А зверху ўжо вёдры, яму — па спіне.
У думках ён вершнікаў голасна лае,
Але ўсё капае, на іх не зважае.
І раптам з той клеці, нібы з каміна,

Раве яго голас, ляціць навіна:
«Браточкі, глядзіце! Браточкі, пайшла!..»
«Браточкі», што зверху улегліся лёгам,
Спіну яго бачаць, а больш анічога,
Але яму раяць дружней і смялей:
«Давай, варушыся! Капай, ды глыбей!»
І хукае дзядзька на рукі, капае,
Ды так, нібы скарб для сябе здабывае,
Закляклых, яму рук і ног не шкада,
Была б толькі светлай заўсёды вада!

*1970*

3 Зак. 4027

## ДОБРАЙ РАНІЦЫ

«Добрай раніцы! Станьце прама!
Пачынаем на месцы бег!..»
Я пасплю яшчэ трошкі, мама,
Ты ж казала, што сон — не грэх.

Толькі сонная чуе вуха,
Як пад музыку на сяле
Пастушыная ходзіць пуга,
Выклікаючы зноў мяне.

Будзе дзень і блакіт гарачы.
Будзе новы мазоль ці шрам.
Што з таго, што ў кустах паплачу,
Пазайздрошчу сваім сябрам!..

І цяпер ім зайздрошчу, мама,
Нам не выпала разам жыць...
Мне па святах, нібы да храма,
Да парога твайго спяшыць.

А ў чатыры ты забядуеш:
«Падхапіўся, як на кірмаш!..»
І адна на зары пачуеш:
«Добрай раніцы! Шагам — марш!»

*1969*

* * *

На досвітку паперай жоўта-сіняй
Кастрычніцкі згарае першы іней.
Дыміцца над палямі халадок,
Карункамі іскрацца пералескі.
І хмаркі, нібы ў храме вечным фрэскі,
З-пад купала плывуць кудысьці ўбок.

Пратарабаніў з горкі недзе воз.
Шаша за Сожам стомлена вуркоча.
Скрыпіць санліва каля студні вочап,
І цётка Маша выганяе коз.
І над усім вісіць, як недарэчнасць,
Тваё пытанне: «Што такое — вечнасць?»

*1970*

## АДКАЛАСІЎСЯ ДЗЕНЬ...

Адкаласіўся дзень. Апаў
З расою ў чэрвеньскія травы.
А так хацеў дабра і славы,
Але без вестак ён прапаў.
Наўкол усё было чужым,
Незразумелым і далёкім.
Стаялі стылыя аблокі
Апошнім выдыхам над ім.
Яшчэ ружовіў небасхіл
Лясоў бязважкія кароны,
Ды ўжо хаваліся ў бутоны
Лілеі... Плакаў дзівасіл...

*1970*

## ТАЯ НОЧ

Тая ноч карацела на нашых вачах.
Свет да раніцы зорамі пах.

Калі бляск іх на плыні згасаў, залаты,
Ты — як промень — ляцела да зорнай вады.

І не скажа нікому ні Сож, ні лаза,
Чаму гэтак пячэ і сляза і раса,

Чаму гэткі гарачы на кручы пясок,
Чаму ў небе разліўся малінавы сок.

*1970*

## НАД БЕЛАЙ РУССЮ...

Над Белай Руссю — белы снег,
Нібыта чыстае сумленне,
Нібыта светлае збавенне
За самы патаемны грэх.

На досвітку запахне снег
Малінава-празрыстым сокам.
І сад, заружавелы ў сне,
Зазвоніць ціха каля вокан.

Трывогу — прэч! Сумненні — прэч!
Табе адчуць памогуць гукі,
Што не было яшчэ сустрэч,
Што не было яшчэ разлукі,

Што толькі ёсць адно святло,
Святло разлівістае снегу,
Што ўсё мінула і прайшло,
А роспачы — няма ні следу.

Калі ж трывога паласне
Твае балючыя ўспаміны,—
Над Белай Руссю — белы снег
Ты прыгадай хоць на хвіліну.

*1968*

## БАЛАДА ВЯТРОЎ

*Брату Рыгору*

Паўночны вецер —
самы халодны.
Паўднёвы вецер —
самы гарачы.
Год сорак трэці —
самы гаротны:
Дагэтуль дзяцінства маё ў ім плача.
Злосны і сіверны вецер заходні.
Вецер усходні — лагодны, гаючы.
...Тыфус лютуе. Падаюць дзеці,
Як дубкі з падрэзанай кручы.
Падаюць дзеці на шыгал, на травы,
А да жыцця — няма пераправы.
Грудкі магільныя, ўзгоркі...
Трызняць матулі ў адчаі горкім:
«Наляціце, вятры, з чатырох бакоў,
Забярыце нашых дачок, сыноў,
Нас развейце і спапяліце,
Толькі з пекла іх панясіце
Праз сухія лясы, праз крывавыя долы,
Праз моры і войны да светлай долі...»
Высахлі, вымерзлі дзіцячыя цельцы.
Ногі не ходзяць. Рукі апалі.
Змалку бяздомнікі-пагарэльцы,
Выжыўшы, мы назаўсёды спазналі:

Паўночны вецер — самы халодны.
Паўднёвы вецер — самы гарачы.
Злосны і сіверны вецер заходні.
Вецер усходні — лагодны, гаючы...

*1971*

# ДЗІЦЯЧЫ ПЛАЧ

У першым доме і кватэры першай,
У высачэзным доме на праспекце
Заплакаў хлопчык.
І прачнуўся дом.
Накрыў падушкай галаву ўчастковы:
«Было такое ціхае дзяжурства,
І вось табе — начны дзіцячы плач...»
Вучоны,— той не спаў яшчэ,— ён думаў,
Плач супыніў палёт ягонай думкі,
Ён шлёпанцы ўстыркнуў і закурыў:
«Няма, няма гармоніі ў прыродзе!..»
І адстаўны вайсковец прахапіўся:
«Няма ў дзяцей належнай дысцыпліны,
Рэжым — першааснова цішыні!..»
Жахнулася бабулька-адзінотка:
«Зайду зірну...
Ох, маладыя мамы!
А хіба ж я такою не была?..»
...Прачнуліся рабочыя, таксісты,
Настаўнікі, ўрачы і сувязісты,
Паштавікі, загадчыкі аддзелаў,
Прачнуўся горад...
І над ім у змроку,
Як зарыва, стаяў дзіцячы плач.
І свет прачнуўся.

Плавіліся цені.
Прачнуліся ў лясах звяры і птушкі,
І над зямлёй мелодыя світала
Даверлівага, ранішняга сну.

*1970*

## ДЗЕЦІ БУДУЮЦЬ ГОРАД

На прырэчнай касе пясчанай
Вырастае дзіцячы горад,
Вырастае вялізны горад
На прырэчнай касе пясчанай.

Замкі, плошчы, палацы, паркі,
Пераходы, тунелі, аркі,
Вежы, вокны, двары, байніцы —
Рупна робяцца да драбніцы.
Спортпляцоўкі, басейны, дамы,
І нідзе не відаць турмы.

На прырэчнай касе пясчанай
Вырастае дзівосны горад,
І шчасліва смяюцца дзеці,
Завіхаюцца і спяшаць
Гэты горад дабудаваць,
Пакуль не зайшло яшчэ сонца,
І хмары грымотныя спяць,
І рэйсавы цеплаход не прайшоў,
І ніхто іх не кліча дамоў.

*1971*

## ГРЫБНАЯ ПАРА

1

Цячэ ў нізоўі з хвойніку туман,
Цягучы і пахучы, як жывіца.
Набухла на імхах глухіх палян
Звільжэла-падапрэлая ігліца.
І порхаўку букатую, як збан,
Крані нагой — яна не задыміцца,
Таму што нараджаецца ў бары
Святочнасць светлая грыбной пары.

2

Дажджы адлапаталі. І грыбнік
Вынюхвае угрэтыя мясціны;
Яшчэ чырванабокі маладзік
Гайдаецца, уцюкнуты ў яліну;
А ён збірае, хітры чараўнік,
З лясной аблогі шчодрую даніну.
Знікае ўсё,— ні смерці, ні жыцця,
І толькі радасць першаадкрыцця.

3

Спрадвеку бор не любіць пазнякоў,—
Напышлівых зайздроснікаў заспаных.
Ім — скрыдлікі ад свежых каранькоў

І россыпы спадманлівых паганак,
Барвянасць вабную баравікоў
Хавае цупкі залацісты ранак.
Ты запазніўся? Слухай, чалавеча,
Як бор з палёгкай плача і шчабеча.

4

Над хатамі грыбны віруе пах,
Шчыруе баравіннае застолле:
Замочка, варка, сушка і засолле,
І радасць таямнічая ў вачах
Жанок лагодных.— Песцяць, як ніколі,
Сваіх мужоў у прыпарных начах.
І дзіўна: нестамлёна на зары
Зноў сем'ямі шныпораць у бары.

5

Грыбная першародная пара,
Ускінь жа нада мною свае крылы!
Як пагарэлец, навасёл дабра,
Так прагну я тваёй глыбіннай сілы,
Зямнога рэха для свайго пяра,
Бо, як грыбніца, набухаюць жылы.
І думкі непатолеюць, нібы
У сховах нечапаныя грыбы.

*1970*

## РАБОЧЫЯ ЦЯГНІКІ

І сонца яшчэ не прачнулася,
А ўжо бягуць вагоны, як мурашкі,
Па выгінастых галінах чыгункі
Туды, дзе горад, пазяхаючы спрасоння,
Выдыхае першыя зацяжкі
Густога дыму заводскіх курыльніц.

У раніпшніх рабочых цягніках
Яны, вагоны, як у вёсцы хаты,
Пахнуць сырадоем і кропам,
Свежымі кілбасамі, гуркамі,
Грыбамі, кменам і налівам белым,
А дзе-нідзе — ўчарашнім перагарам.

Гайдаецца ў іх ленная дрымота
Вачэй і рук, гаворкі ціхай, думак,
Іх рух рытмічны, толькі на хвіліну,
Кароткія прыпынкі парушаюць.

Пад вечар абуджаюцца вагоны.
Па іх з тунеляў,
Як з брандспойтаў, лупіць
Людская хваля.
Гарачая, тугая,
Яна вагоны мігам залівае
І песнямі, і жартамі, і смехам.

...І пайшоў цягнік, паехаў.
Вагоны ажываюць.
І людзей
Цяпер вязуць, нібы гасцей з вяселля,—
Дзядоў, бацькоў, мужоў, каханых, жонак,—
Будаўнікоў вязуць на адпачынак,
І самы час цяпер пагаварыць.

— ...вы чулі, зноў укралі самалёт?
— Нягоднікі, забілі чалавека!

— ...Анджэла Дэвіс — вось дзе малайчына!

— Забойцаў у Сангмі сам прэзідэнт
пад крылы прыхаваў, нібы квактуха,
а ты казаў, што могуць пакараць...

— ...прыходжу, значыць, я дамоў, а жонка...
— ...і правільна, які з цябе мужчына,
калі трасуцца ўжо не толькі рукі...

...Размовы аціхнуць і адгучаць,
Скоціцца сонца за лес рабрысты.
Імчаць вагоны.
І людзі імчаць,
Даверыўшыся машыністу.

*1971*

## ГЭТА ЯШЧЭ НЕ НОЧ

Гэта яшчэ не ноч.
Паглядзі, як скача рыба:
Срэбраны дождж над ракой,
Раве буксір за лукой,
Як бычок, што ад статка адбіўся.
Над выганам пыл задрамаў.

Такі быў сухменісты дзень.
І вось пачынаецца,
Пачынаецца начное свята прыроды:
Знікае мяжа між небам і зямлёю,
Расце трава. І зоры растуць, і думы.
Цёмнай сцяною здаецца бор,
Вежаю — месяц.
Хочацца зазірнуць
У заўтрашні дзень.

Давай стому змыем
У ружова-крынічным Сожы,
Сядзем на мораны дуб,
Узняты з прадоння рачнога,
І памаўчым.

*1971*

## РОЗДУМ
## ЛЯ КРАМЛЁЎСКАГА МАНУМЕНТА
## ВЫДАТНЫМ ЛЮДЗЯМ СВЕТУ

Не дужа практычны
Розум крытычны.
Часам, дзе трэба згадзіцца, змаўчаць,
Розум крытычны пачне бунтаваць,
Аспрэчваць высновы,
Даследваць асновы,
Вытокі, прычыннасць загадкавых з'яў...
Глядзіш — ён, як кажуць,
Сваё атрымаў.
Але гарэлі думкі, як пажары,
Але ўзляталі думкі, як мячы.
І ў прадчуванні неадхільнай кары
Дрыжэлі цёмных сіл паслугачы.
Ім розум гэты, што змятаў сумёты
Ілжэвучэнняў,
Тоўк ушчэнт багоў —
Страшней ад гільяцін і эшафотаў,
Вышэй ад інквізітарскіх кастроў.
Як і раней — сцякалі ў мора рэкі,
Як і раней — дзе золата, дзе кроў.
Але ўжо выспявалі ў чалавеку
Свабода,
Роўнасць,
Згода
І любоў.

4 Зак. 4027

Крытычны розум!
Ты ўзлятаў высока,
Цябе пранізваў сівер ледзяны...
Да помніка было яшчэ далёка,
Што вырас ля Крамлёўскае сцяны.
Было што трэба ім, людзям выдатным,
Ім, не тупым, і дамагчыся здатным
Яснавяльможнай міласці і ласкі...
Няўжо здзяйсненне выдуманай казкі?
Мне на пытанне, што расхвалявала,
Яшчэ ў маленстве адказаў Купала.

*1972*

## ВЯСЕЛЬНЫЯ КАРУСЕЛІ

*С. Пракапенку*

Застолле вясельнае —
Кола карусельнае.

Рэжа ўсё, нібы салому,
Час, што стоена плыве.
З маладой жа маладому —
Маладое ў галаве.

Рана госцейкі паселі,
Позна ўсталі спакваля.
На вясельных каруселях
У Сусвет ляціць зямля.

Над эпохамі, вякамі,
Над зямлёю з даўніны
Верталётнымі вінтамі
Раскруціліся яны.

Шэпт плыве над светам:
— Любы!
Эскадрыллямі буслы
З немаўлятамі у дзюбах —
Бессмяротнасці паслы.

*1971*

* * *

У дзядзькі Івана трухлявая хата.
Перасыпаць бы яе, перабраць.
Ды колькі тых сіл у былога салдата,—
Пяць асколкаў дагэтуль у целе сядзяць.
Жонка прыстала, нібы кароста:
«Ты б да начальства,— кажа,— пайшоў...»
А дзядзька Іван у адказ ёй: «Навошта,
Навошта, калі мне пара дамоў —
Да бацькі і маці, сяброў сваіх, брата,
Яны адышлі ўжо... і я памру...
Навошта мне гэтая новая хата,
Што я — з сабою яе забяру?
А дамавіну — людзі скалоцяць,
Дошкі на вышках хай возьмуць яны.
Ты не жалкуй за мною ўжо, Моця,
Адна не звякуеш, прытуляць сыны...»
Доўга не спалі яны, бедавалі.
За вокнамі цёпла чарнеў небасхіл.
І птушкі начныя самотна крычалі
Каля далёкіх і блізкіх магіл...
Яшчэ не світала, а неба глыбела,
І хата нібыта да зорак ляцела.

*1971*

* * *

Мова...
Родная мова
У марах, у песнях, снах.
Мае ў ёй кожнае слова
Свой колер, і смак, і пах.
Зліваюцца гукі ў словы
І ў рэчышча роднай мовы,
Як рэкі ў мора цякуць.
І думкі мае плывуць
На хвалях і дзён, і начэй
Да сэрцаў людскіх і вачэй.

*1971*

## ПАЧАТАК ПАЛЯЎНІЧАГА СЕЗОНУ

Дванаццаць качак ляцела,
Дванаццаць палескіх качак,
За імі — астатнія ўсе.
Ніводная з іх не села
На возера, што вабна бліШчэла
У ранішняй смузе.

...Якое няўтульнае неба!
Ні купіны ў ім, ні кусціка...

...І, калі ўдарыў лівень грымотны,
Полымя стрэлаў асвяціла абшар,—
Ім падалося: пачаўся смяротны,
Смяротны на роднай зямлі пажар.
О, подых смерці над самай зямлёю!
Свінцовы лівень п'ючы нагбом,
Качкі тушылі сваёю крывёю
Няшчадны і ненажэрны агонь.
Знізу — свінцовы, а зверху — крывавы,
Ліўні счапіліся ў вышыні.
Чырвонымі сталі неба і травы,
Дзіка заенчыў сабака плюгавы,
І снежна-белыя стухлі агні.

*1970*

## СОСНЫ

За вёскай — сосны,
Звонкія, як струны.
З іх робяць хаты,
З іх жа робяць труны.
Не будзе векавечнай і яна,
Мне наканаваная сасна.
Аднойчы
Скаланецца свет лясны.
На крохкую,
Пажоўклую ігліцу
Слязой апошняй
Скоціцца з сасны
Гарачая кроплінька
Жывіцы.
Адкуль мне ведаць,
Дзе яна ўпадзе:
Ці на чужыне,
Ці у Беларусі?
Адкуль мне ведаць,
На якой бядзе
Я спатыкнуся
І не паднімуся.
Мне б толькі ведаць,
Што агонь калін
Зноў грэе зябкі
Вечар вераснёвы.

**Мне толькі б ведаць,
Што мой родны сын
Сваёй не адцураўся
Роднай мовы.
Што свет не стаў
Выжарынай пустой,
Не захлынуўся
Прадсмяротным скрыпам.
Што ўсё ж хапіла
Той сасны маёй
Камусьці на калыску
Ці на скрыпку.**

*1968*

## КРЫВАВАЯ БАЛАДА

*Светлай памяці аднагодкаў*

Ні хмурынкі, ні ветрыка
Ад Ляскавіч да Петрыкава.
Толькі сорак галасоў
Над маўклівасцю лясоў.
Сорак дзетак-малалетак,
Сорак чаек у адчаі.

Нашы маткі так крычалі,
Што завяла сорак кветак.

«Цыць, Рыгорка, не раві!
Колькі у цябе крыві?
Трошкі возьмуць — і дамоў!
І нашто ім наша кроў?»

Ні хмурынкі, ні ветрыка
Ад Ляскавіч да Петрыкава.
Толькі сорак галасоў
Над маўклівасцю лясоў.
Толькі гыркаюць аўчаркі.
Канваіры: «Шнэль! Цурук!»
І прытушваюць цыгаркі
Аб далоні нашых рук.

...Наплыве успамінаў дым,
Зноў убачу, нібы надоечы,

Як хапаюць нас па адным
І да шулы прывязваюць стоячы.

Хліпнеш раз,
Хліпнеш два,
Хліпнеш тры.
Пырсне кроў у літровую шклянку.
І патухне сонца ўгары
Зранку.

«Не чапайце сястрычку маю,
Не чапайце!
Лепш ля шулы жывым
Вы мяне закапайце!
Кроў вазьміце да дна,
Кроў вазьміце!
Толькі Верку дамоў адпусціце!»

Круціўся свет у чорных плямах.
Я на траву валіўся ніц...
Навотлеў біў у сэрца прама
Крывавы шпрыц.

Калі ж канчаліся трызненні,
У сонным хісткім праясненні
Матулю бачыў я. Яна
Ішла кудысьці, нешта пела,
Але на рукі не хацела
Узяць мяне. І я крычаў,
Крычаў, пакуль не замаўчаў...

Няўжо гэта наш зарачанскі бор?
Вунь дзядзька Андрэй, касцёр.
Няўжо гэта мая нага, рука?
Ой, як хочацца малака!
А дзе ж Рыгорка, Верка, Надзя,
Зоська, Клава, Антосік, Ядзя,
Міхаська, Міколка, Янінка, Адам?
А дзе ж гэта я сам?

— Ляцела сорак сарок...
— Гэта казка?..
— Праўда, сынок!

*1972*

* * *

Я не рабіў нікому злога.
Мая віна, што не заўжды
Маё спагадлівае слова
Вас ратавала ад бяды.

І сам я і спяваў, і плакаў,
Незаспакоены нідзе,—
Між малайцоў і небаракаў,
І ў весялосці, і ў бядзе.

Калі ж шчаслівая хвіліна
Мяне ўзнімала да нябёс,—
Я дзякаваў табе, Айчына,
І вам, сярод каго узрос!

А як рабілася балюча,
Калі мне ў вочы біла золь,—
Я думаў: зеллем хай гаючым
Вам стане мой вялікі боль!

Я не рабіў нікому злога.
Мая віна, што не заўжды
Маё спагадлівае слова
Вас ратавала ад бяды.

*1972*

## ПІЛЬШЧЫКІ

З нас пільшчыкі былі тады —
Дай бог!
Каб час начны не гнёў, самотна-горкі,
Прапахлыя тырсою
З рук да ног,
Мы шыбавалі ў вёскі
На вячоркі.
Хто для тутэйшых мы?
А чужакі!
Захопнікі,
Што разбіваюць пары!
Здаралася
Не раз праз хмызнякі
Ляцець назад
Ад помсты і ад кары.
Так дзень у дзень:
Сякера і піла,
Бярвенняў
Саматужная тралёўка.
А вечарам сцяжына
Зноў вяла
З нас кожнага,
Відушчага, як воўка.
Вяла туды,
Дзе музыка і смех.

Дзе хлопцы
Насцярожана, з азіркай
Гуртом гудуць,
Не лічачы за грэх
Агрэць нас
Аглабелькаю ці гіркай.
І не было дарогі нам назад.
І нам самім —
Не распачаць ігрышча:
У нашай вёсцы —
Ні дзяўчат, ні хат,
У нашай вёсцы —
Толькі папялішчы.

*1972*

## ЧАС АБУДЖЭННЯ

Нам нічога не скажуць
Ні птушкі, ні травы, ні росы.
І дыханнем угрэтыя нашым,
Заснуць разам з намі вятры.
Покуль досвітак не пакладзе
На твае галубіныя косы
Залатое адценне
Над борам разлітай зары.

Прывітаем, каханне маё,
Светлы час абуджэння!
Хай жывое — жыве.
Хай развеецца змрок.
На мяжы дня і ночы
Ёсць загадкавае імгненне,
Калі ёкае сэрца,
Адчуўшы світальны штуршок.

Прывітаем, каханне маё,
Усе цягнікі, самалёты,
Леснічоўкі, і вёскі,
І далёкія гарады.
І сваю пуцявіну,
Надзеі свае і турботы,
Свет увесь прывітаем,
Атлумлены і малады.

І не будзем баяцца:
Усё нашае — з намі.
Што згубілі —
Не будзем аб тым шкадаваць.
Гэтак вучыць прырода
Чалавека вякамі:
Спакваля абнаўляцца
І свет абнаўляць.

Каб на золкім світанні
Ў ціхі час абуджэння
Гулка ёкала сэрца,
Адчуўшы глыбінны штуршок,
Каб у нашым жыцці
Пульсаваў вечны дух абнаўлення,
Як па дрэвах і травах —
Зямны незабруджаны сок.

*1972*

## ЖНІВЕНЬ СОРАК ПЯТАГА ГОДА

Праз папялішчы
Па колкім іржышчы
Да нашай вёскі ішоў нясмела
Спраўляць зажынкі
Жнівень зжаўцелы.

З галадухі і ён спатыкаўся,
Сляпы.
Лісты-пахаванкі нёс,
Нёс і снапы.

— Гэта табе, цётка Арыпа,
За сына...

— Гэта табе, дзядзька Яўтух,
За малодшых двух.

— Гэта табе, дзед Атрох,
За трох...

— А табе, Адарка,
Ці ж я вінават,
Прынёс табе, Адарка,
Чорны лістапад.
Што паробіш, гаротка,
Вайна, вайна...

**Засталася, Адарка,**
**Ты, як палец, адна...**
**Хаця перамога**
**Ускаласіла —**
**Вёска стагнала**
**І галасіла.**
**Бегалі дзеці.**
**І, як нейкае дзіва,**
**Зярняты ў прыгаршчах**
**Трымалі шчасліва.**

*1973*

## СНЕЖНАЯ БЛАКАДА

### Балада

Рана заснежыла ў сорак пятым,
Заснежыла, замяло.
У гурбы снегу зашыліся хаты,
Знікла сяло.

Нібыта мала мы мелі гора,
Мала калелі ў блакадных лясах.
Ад ганка рабілі мы снежныя норы,
Калючае сонца стыла ў вачах.

І ў снежна-сліпучым,
Марозным ззянні
Сіроча глядзелі салдатак сыны,
Ці коміны ўсе дымяцца ўранні,
Дымяцца ўранні
Ці ўсе яны?

Лічылі.
Збіваліся.
Зноў лічылі...
— Глядзіце,
А цётка Хадоска спіць,
З блізнятамі спіць у снежнай магіле,
Комін над хатай яе —
Не дыміць...

Плывём па пахі ў пякучым снезе.
Дранцвеюць ногі.
Макрэе спіна.
І кожны з трох нас
Першым лезе,
Цягнецца да коміна.
А ён — заінелы,
А ён — астылы,
А ён — парэпаны, ледзяны.

— Цётка Хадоска! —
Крычым што ёсць сілы.
— Цётка Хадоска!
Як там сыны?

Але пад намі — жахліва ціха.
Як чорныя дрэвы —
Дымы ў цішыні.
І нават воблачка,
Нібы крыга,
Да сонца прымерзла
У вышыні.

І вось
У марознае гэта бязмежжа
З коміна ўзвіўся,
Нібы кволы дымок,
Узвіўся
З-пад сыпка-сухога падснежжа
Цёткі Хадоскі слабы галасок.

— Дзетачкі-сыночкі,
Мае каласочкі!
Спіце, дзеткі, спіце,
Нібы кветкі ў жыце.

Сонейка устане,
Ды вас не застане.
Спіце, дзеткі, спіце,
Нібы кветкі ў жыце.

Чаму ж з вамі, дзеткі,
І я не спачыла,
Чаму ж маю долю
Гора надтачыла?..

Я сам цяпер не разбяру,
Як прабівалі мы нару.
Было даўно,
Было даўно...
Вось на падлогу праз акно
Зваліліся.

І вось лучына
Ужо на прыпечку трашчыць.
Гайдае ціха цётка сына,
Таго, які не будзе жыць.
Другі ж —
Крычыць,
Крычыць,
Крычыць...

І мы у прыцемку, як чэрці,
Глытаючы пярхоткі дым,
На беразе жыцця і смерці
Асалавелыя сядзім.

*1974*

## УРОК АРЫФМЕТЫКІ

Год сорак пяты.
Першы клас.
Урок арыфметыкі ў нас.
Худыя, галодныя, рахітычныя,
Развучваем дзеянні арыфметычныя.

На дошцы настаўніца лічбы піша.
Іх не складаю, ўпрыхліпку раву:
Учора сказалі, што брат мой Міша
Недзе на фронце склаў галаву.

У кожнай хаце лютуе гора.
Гадамі ішоў адымання урок.
Раней у маці было нас чацвёра,
Цяпер я застаўся, адзіны сынок.

Збялелая маці на бацьку варожыць
Пры свечцы ў зямлянцы на чыстай вадзе:
Няўжо наша гора і ён нам памножыць,
Няўжо нашу долю няшчасце прадзе?

Вернецца бацька — на трох падзелім,
На трох падзелім гора-бяду...

Новыя ў свеце грымяць падзеі.
Я трыццаць гадоў з таго ўрока іду.

*1974*

## ВІРУСНЫ ГРЫП

Жывы жывога хай ратуе
Ад пошасці і эпідэмій.
Два тыдні Еўропа грыпуе
Ад біржаў да акадэмій.

Бязлітасны і няўлоўны
Вірус пралез па-сваяцку
У самы замак шыкоўны
І ў ложак мулкі, жабрацкі.

Пераразвоньваюцца прэм'еры.
Страх бяжыць па прамых правадах:
Як збавіцца ад гэтай халеры?
Што чуваць у вучоных кругах?

Сарамліва маўчаць
Свяцілы медыцыны.
Хваліліся:
Мазгі ўсім асвяжыць маглі б.
А тут — не вынайшлі
звычайнае вакцыны...
Грып над Еўропаю!
Грып!

Адзін дыктатар міні-дзяржавы
Апазіцыянераў сагнуў у рог,

Але не прыдбаў ад гэтага славы:
З грыпам справіцца сам не змог.
Сам адкачаўся у потнай гарачцы,
Зараз міністры яго ляжаць.
Дыктатара слугі возяць на тачцы.
Сумна.
Няма кім яму кіраваць.

Вірус
Ужо да эпідэміі вырас.
На амвоне абрыдла —
Забраўся на клірас.
Грэшным усім
Адпявае грахі.
Над Еўропай — жалобныя сцягі.

Сталі раіцца з урадам урад.
Гаючага зелля сабе наварылі.
Нарэшце грып пайшоў на спад.
І ўсе пра яго забылі.

Акрыялі медыкі.
Узнялі тост,
Каб вірус гуртам злавіць за хвост.
А вірус знік,
А яго — няма...

...Наперадзе яшчэ не адна зіма.

*1974*

## ГОРНЫЯ КОНІ

Як горныя кручы,
Маўклівыя горныя коні.
Адбітак прадонняў сцюдзёных
Стыне ў іхніх вачах.
Раўніннага стэпу
Яны не ўяўляюць ніколі
І толькі глуха ўздыхаюць
На воўчых сцяжынах і ў снах.

Зрэдку смакуюць яны
Сакоўны авёс, канюшыну,
З-за якіх аж грызуцца ў канюшнях
Распешчаныя скакуны.
Ды не іржуць адзічэла,
Як голад ім сцягвае жылы:
Не зведаўшы сытасці,
Голад лягчэй пераносяць яны.

Не зразумець скакунам,
Ачмурэлым ад воплескаў, свісту,
Усім, хто шалее ад злосці,
Калі на паўвуха адстаў,—
Чым іх так вабіць
Вусцішны шлях каменісты,
Без штучных бар'ераў,
Загонаў, канаў.

Скалелыя скалы...
І горныя — зорныя коні...
А як слязіна ў адчаі
У сцюжу ляціць з-пад павек —
Пысамі грэюць яны
Чалавеку і твар, і далоні,
І зноўку сілы знаходзіць
Расчулены чалавек.

Стаеннікі!
Лёс і у вас
Не такі ўжо салодкі,
І вы нас здзіўляеце
Лёгкасцю, спрытам,
Але
Вы не крыўдуйце,
Што нават далёкія продкі
Не ваш, а іхні адбітак
Высеклі на скале!

*1973*

## БЛУКАЮЧАЯ КАМЕТА

— Адкуль да нас ляціш, камета?
— З глыбінь міжзорнага Сусвету.

— Няўжо ў касмічным зорным полі
І ты шукаеш лепшай долі?

— Мне ў гарманічнасці нябеснай
Галактыка здалася цеснай.

Хаця сама яна віруе,
Але свавольства не даруе.

Калі мой шлях, дагэтуль мілы,
Стаў аднастайным у жыцці —

Яна мне падпаліла крылы.
— Цяпер,— сказала мне,—
Ляці!

*1974*

## АВАРЫЯ

### Сучасная казка

Робат робата убачыў,
Робат робату сказаў:
— Дзесяць дзён ты пралайдачыў.
Дзесяць дзён я працаваў.
Нешта ўжо спіна макрэе,
Свет гайдаецца, плыве,
Мабыць, селі батарэі,
Замыканне ў галаве.
Адкруці на шыі крышку,
Падкруці кантакты крышку...

Ён, як бачыце, сумленна
Скаргу выказаў, дзівак.
А яго напарнік зменны
Быў зайздроснік і лайдак.
Памаўчаў, не запярэчыў
І у сябра за спіной
Блок бяспекі пакалечыў
Электроннаю рукой.
І сказаў яму сурова:
— Ну, ідзі працуй!
Гатова!

І пайшоў той, нібы п'яны,
Ад станка і да станка

Даць прадукцыі звыш плана
За сябе і дружбака.
Бо любіў яго замнога,
Больш за ўсё — за весялосць.
І у робатаў ад бога
Пачуццё сяброўства ёсць.

Толькі ён націснуў кнопкі,
Каб працэс пайшоў хутчэй,—
Раптам вылецелі пробкі,
Нібы крылы з-за плячэй.
Нешта стукнула у грудзі.
Ён убачыў у прасвет,
Як насустрач беглі людзі,
А за імі — зменны ўслед.

Робат робата убачыў,
Робат робату сказаў:
— Ты, брат, нешта напартачыў,
Як мяне рамантаваў.
Не злуюся і цяпер я,
Бо хачу табе дабра...
Ад давер'я да няверʼя
Шлях кароткі, як іскра...
Адказаў лайдак эфектна:
— Можа, браце, я дэфектны?
Дык даруй за мой учынак
Ці спішы мяне на злом...
Нараджаўся паядынак
Зноўку між дабром і злом.

*1974*

## ВЕРАСЕНЬ

Зноў верасень —
Запаслівы грыбнік —
Шчыруе па імшыстых баравінах.
Трымціць раса на звонкіх павуцінах,
І травастою пах яшчэ не знік.

Немітуслівa
Промні аж да дна
Прасвечваюць азёрныя глыбіні.
І гронкі ацяжэлыя каліны
Насыціліся сокамі спаўна.

Мне даспадобы
Верасень заўжды.
І не таму,
што ў ім я нарадзіўся.
У верасні мне свет увесь адкрыўся
У спеласці сакоўнай — малады.

Так, свет!
І сам я ў вераснёвы час,
Прасвечаны святлом яго, як гронка,
Спяваю і не ціха, і не звонка
Для вас,
абшары родныя, для вас,

Шчымліва
Адчуваючы душой
Закончаную яснасць у прыродзе,
І ў жураўліным сцішаным палёце,
І ў засцюдзелай быстрыні рачной.

Вулля
Шукае позняя пчала.
Лагодна-мяккі свет, нібы вашчына.
І дабратой прасвечана Айчына
У барвах баравіннага святла.

*1974*

# КАРЛО КАЛАДЗЕ

Прадоннем
Пахне горная дарога.
Далей ад мітусні —
Бліжэй да бога.
А бог між нас —
Паэт Карло Каладзе,
Зямная мудрасць
У яго паглядзе.

Паплечнік ён
І старцу, і герою,
Рачулцы горнай,
Стромкаму платану.
Яго я параўноўваю з гарою,
Ні з кім больш
Параўноўваць я не стану.

Гады яго так доўга шліфавалі
І навальніцы білі так зацята,
Што спеў ягоны паўтараюць далі,
Званчэйшы ад гарачага булата:

— Той не адчуе над прадоннем зморы,
Хто ведае, аб чым спяваюць горы.
Той не адчуе над прадоннем страху,
Каму ляцець над светам, нібы птаху.

6 Зак. 4027

Не той пясняр, хто голасна спявае
І, змардаваны, ад натугі чэзне,
А той, хто сам не ведае, не знае,
Чаму народ так прагна паўтарае
Даўно-даўно ім складзеныя песні.

Грымотамі
Салютавала лета.
Мяняліся
Прылівы і адлівы.
І голасам
Грузінскага паэта
Свет з небам зорным
Гаварыў, шчаслівы.

*1974*

## НАД МАГІЛАЙ МАРКА МІЛЯНАВА

На памяць прымаўка прыходзіць:
«Герой — каня народу водзіць».

І сапраўды, не той герой,
Хто кліча за свабоду ў бой,
Хаваючыся за гарой.

«На чарнагорскіх чорных скалах
Ніхто не здасца у палон!»
Пасланне Маркава хістала
Імперыі крывавы трон.

І янычары не спіхнулі
Паўстанцаў пад круты абрыў,
Бо нават шрыфт ішоў на кулі,
Бо нават камень куляй быў.

Гяроямі заўсёды звацца —
Нібыта людзям назаляць.
Там, дзе арлы адны гняздзяцца,
Героі на вяршынях спяць.
І перад імі — назаўсёды
Абшары вольнае зямлі.

Яе — героі у народа
І на магілы не ўзялі.

*1974*

## САРТАВАЛЬНАЯ ГОРКА

Калі мне стане горка,
У спёку і ў слату,
Чыгуначная горка,
Я да цябе іду.

Тахлуеш ты вагоны.
Вагонны лёс такі:
Адны — на шлях галоўны,
Другія — ў тупікі.

Ты дзень і ноч працуеш,
Ты дзень і ноч гудзеш.
Куды мяне скіруеш,
Куды мяне пашлеш?

Ляцеў бы перагонам
У шчэпцы я, дзівак.
Але мне быць вагонам
Не хочацца ніяк.

Ні мяккім, пульхнацелым,
Ні змрочным ледніком,
Ні персанальна белым,
Тым больш — паражняком.

Чыгуначная горка,
Я аднаго прашу:
Ты пуцявінай-зоркай
Мне асвятляй душу,

Каб часам свет суровы
Па нечай там віне
На шлях на тупіковы
Не завярнуў мяне.

*1974*

## МІННАЕ ПОЛЕ

Балада

Змарыліся хлопцы, світанак праспалі.
Іх сонных схапілі.
Іх сонных звязалі.
Шалелі фашысты, аж трэсліся рукі:
Якія прыдумаць разведчыкам мукі?

Стаялі яны, маладыя, маркотна,
Біліся сэрцы ў горкай знямозе,
Нібы ў блакаднай багне балотнай,
З якой ім вырвацца не ўдалося.

Схапілі...
Звязалі...
Праспалі...
Праспалі...

Навошта іх кулі ў баях абміналі?
Праспалі...
Праспалі...
Каб недарэчна закатавалі?
Праспалі...
Праспалі...

На шыбіны хукала вёска. Глядзела,
Як чорная зграя на санках лядела.

Не коні цягнулі сані-развалы,
А басанож — тры партызаны.

Сытыя карнікі рагаталі.
Праспалі...
Праспалі...

Іх бізунамі паласавалі.
Праспалі...
Праспалі...

Стыла на снезе
Юначая кроў
І фарбавала
Сляды палазоў.

Марознае неба,
Маўклівыя хаты
Чакалі ратунку,
Чакалі адплаты.

А хлопцы ў палон
Нечакана папалі.
Праспалі...
Праспалі...

Бывайце, сябры,
Партызанская слава!
Хвошчуць іх ворагі
Злева і справа.

І хлопцы,
Не адчуваючы болю,
Раптоўна звярнулі
На мінnae поле.

Грымнулі выбухі,
Войкнулі хаты.
Дзе сані-развалы?
Дзе ворагі-каты?

На снезе скрываўленым
Хлопцы ляжалі.
А вусны шапталі:
— Праспалі...
Праспалі...

*1974*

* * *

*Брату Генадзю*

**Любі Айчыну,
Родны край
І не стагні,
І не хваліся.
Не зробіш — лепш не абяцай,
З людзьмі — апошнім падзяліся.
Прабач усім,
Хто ад віны
Не бачыць сам
Зямлі і неба.
І толькі здрады і маны
Нікому даравацць не трэба.**

*1974*

## СТАРАЯ ХАТА

*М. Афанасьеву*

Хоць час абганяе спорнай хадою,
Але не маркотны хаціны пагляд,
Пакуль пад яе заімшэлай страхою
Ластаўкі росцяць сваіх птушанят.

Пакуль не выпіла студню раска,
Пакуль падваліны не падгнілі,
Пакуль з дрывотні не збегла ласка,
Пакуль на падворку гудуць чмялі.

Прыплюшчыць хата вочы на сонцы,
Вецер палашчыць ёй цёплы бок.
А новыя хаты —
Як быццам адгонцы,
Далей ад яе ўсё — скок ды скок.

Ах, якія яны маладыя!
Ах, як любяць яны гасцей!
І праўда, мабыць,
Часы не тыя:
Малавата ў хатах новых дзяцей.

Так.
Дзяцей у іх — малавата.
Ці ж старая ў тым вінавата?

Ніякавата ёй і прыемна,
Што дзеці
Любяць бегаць сюды.
Ах, як добра любіць узаемна,
Ці стары ты, ці малады!

Дзеці тут самі гаспадаруюць,
Часам пасварацца,
Хоць і сябруюць.
І заключаць, прысеўшы на жвір,
Свой справядлівы дзіцячы мір.

Чым больш дарослыя адганяюць
Іх ад хаціны гэтай старой,
Тым менш іх слухаюць дзеці.
Гуляюць,
Аберагаюць прытулак свой.

Як быццам ведаюць па здавёнцы,
Свой абжываючы родны кут,
Што новыя хаты —
Гэта адгонцы,
А карнявіна адвечная — тут!

*1974*

* * *

*М. Аўрамчыку*

«Пракацілася эпохі кола
Па хрыбетніку маім»,—
Так нам паэт казаў вясёлы,
Пачаткоўцам
Маладым.

Не раз кашчаваю зачэплены,
Ён не гарбаціўся нідзе.
Ён — як сякера у зашчэрбінах,
З якой наперад час ідзе.

Няпраўду, зло
Ён выкарчоўвае
На расцяробах новых дзён.
І долю горкую, суровую
Нідзе не кляў ніколі ён.

Зашчэмлены эпохі поясам,
І нам не стаў ён дагаджаць.
І кожнаму было з нас боязна
Пяро самому ў рукі ўзяць.

*1975*

## ЖАНЧЫНЫ

Жанчыны ўмеюць чакаць,
Жанчыны ўмеюць кахаць,
Многае ўмеюць жанчыны.
Пяшчотны іх шчэбет птушыны,
Што чуць пашчасціла мне,
І вас няхай не міне.

Не трэба жанчыну гнявіць,
Жанчыну трэба любіць,
Любіць аддана і смела,
Каб музыка ў свеце гучэла,
Што ачышчае наш дух,
Якая толькі на двух.

Перад жанчынай, як сыч,
Не будзь. Не стагні і не хныч,
Калі ты сапраўдны мужчына.
Як нават жыццё запярчыла,—
Ей не заменяць казкі
Тваёй пяшчоты і ласкі.

Жаночых надзей не руйнуй.
Жанчыну раўнуй не раўнуй,—
Сама ва ўсім разбярэцца.
Глядзі, як шчасліва смяецца

Жанчына. І здзіўлены свет
Зайздросна глядзіць ёй услед.
Прайшла, апякла і растала,
І сумна навокал стала,
Сіроча ў свеце зусім.
З жанчынамі свет не старэе,
Ён маладзее, дабрэе,
І ўрэшце, нас дорыць ім.

І мы іх любім і любім,
За што — пра гэта не трубім,
Між іншым, навошта трубіць?
Жанчыну трэба любіць,
Любіць аддана і смела,
Каб музыка ў свеце гучэла,
Што ачышчае наш дух,
Якая толькі на двух!

*1975*

## БАЛТЫЙСКІ ЗАЗІМАК

*А. Савіцкаму*

У небе, сцюжаю зашклёным,
Марскі адбіўся неспакой.
І чайкі, збітыя цыклонам,
Як снег, ляцелі над вадой.

Круціла мора ў плямах шэрых
Свае грымотныя валы.
Тырсою білі пыркі ў бераг
З-пад іх, як быццам з-пад пілы.

Ад гэтай гнеўнасці стыхіі
Дзеля спакою і красы
Ужо снягоў пласты тугія
Палі чакалі і лясы.

Так сэрца, сціснутае болем,
У ночы чорныя і дні
Чакае ласкі, і спакою,
І цішыні, і чысціні.

*1975*

## НАЧНОЕ КУПАННЕ

Каханая,
Ці помніш ты, скажы,
Як мы з табой купаліся ў Сажы?

Сярод начы з табою мы купаліся,
Гайдаліся ад бакенаў агні.
І ўзрушаныя зоры цалаваліся
Пад намі, у сцюдзёнай глыбіні.

Каханая,
Ці помніш ты, скажы,
Як ноччу мы купаліся ў Сажы?

Выслізгвала ты з рук маіх, як рыба,
Па водмелі кідалася наўскач.
А недзе ціха ў лугавіне ўсхліпваў,
Самотна ўсхліпваў адзінотны драч.

І нам было шчасліва і самотна.
Што быць магла —
мінула незваротна.
Нам час, нібы раку, не пераплыць,
Нам не вярнуцца ў тыя дні былыя,—
Ад успамінаў толькі сэрца ные,—
А новым дням цяпер нас не злучыць.

Губляючы зямную раўнавагу,
Ты бегла ад вады,
Як ад бяды.
І ў немачы ўзлятаючы,
З размаху
Змывала хваля нашыя сляды.

*1975*



7 Зак. 4027

* * *

*Я. Османісу*

**Пад шорхат ціхіх снегападаў**
**Адчуў глыбока я ў цішы**
**Спакой латышскіх даляглядаў**
**І вашы душы, латышы.**

**Хай цёплы водсвет вашай мовы**
**Світальна льецца спаквалі**
**На ўсе палеткі і дубровы,**
**На ўсё, што нам нясе зямля.**

**Снягоў задумлівае веча.**
**Іду сцяжынаю крутой,**
**І слова роднае трапеча,**
**Мой узвышаючы настрой.**

**І хараша яму і вольна**
**Гучаць на беразе марскім**
**І самабытна і супольна**
**З латышскім словам трапяткім.**

*1975*

## ЯСЕНЬ

Усё бывае на вяку.
І мне прыгадваецца ясень.
Ён — на балотным астраўку,
Але — не як забыты вязень.

Да ўзболатку — алешнік мкне.
Лазняк — і той на востраў хоча.
Бо ясень і ў глыбокім сне
Ім нешта светлае лапоча.

Калі ж хмызы равуць наўзрыд,
Калі завеі хвошчуць ясень,—
Вяршыня снежная ў блакіт
Нырае неспайманым язем.

Не наракае ён на лёс.
Галін не ўскідвае ў маленні.
Тут нарадзіўся ён, узрос,
Мацуючы зямлю карэннем.

І ў цёплай ранішняй смузе
Відаць усім з-за паварота:
Як бусел на аднойназе,
Стаіць ён пасярод балота.

*1967*

* * *

*Брату Леаніду*

Дым з коміна над роднай хатай,
Стажок маленькі за хлявом.
Стаю ў двары, як вінаваты,
Зайсці баюся ў родны дом.

Прыйшоў сюды не на спатканне,
Не жабраваць прыйшоў сюды.
І не шукаць у хваляванні
Маленства даўняга сляды.

Не за адным глытком паветра,
Што вее з родных берагоў,
Ляцеў і ехаў я праз нетры
І пехатой сюды ішоў.

І не крыўдую я на долю,
Што з роднай хатай развяла.
Нідзе на свеце і ніколі
Яна чужой мне не была.

І ўсё ж зазначу я пясмела,
Употай нават ад сябе,
Што наша хата пастарэла
У нейкай сцішанай журбе.

Бы нешта ёй адной вядома,
Чаго і нам не зразумець.
Ну, вось і ўсё. Ізноў я дома,
Каб зноў удалеч паляцець.

*1975*

* * *

У жнівеньскія травы упадзеш,
Прагрэтыя да самай карнявіны,
Адчуеш, што зямля не мае меж,
Плыве ў Сусвет, нібыта аблачыны.

У звонкай і духмянай сіняве
Скачок пад вухам лена застракоча.
І думка ціха, ціха паплыве
Туды, куды яна сама захоча.

А пад спіною — дыхае зямля,
Лапаткі працінае прахалода.
І пачуццё бясконцага палёта
Павольна зноў вяртаецца здаля.

Міжволі вочы мружацца ў цяньку.
А ў ложку сплю я толькі на баку,
Бо не заснуць інакш да рання мне.
Яшчэ яналяжуся на спіне.

*1976*

## МАКСІМУ БАГДАНОВІЧУ

Калі паміраюць паэты,
Што ні перад кім не гнуцца,—
У чалавецтва прасветы
На ўсе вякі застаюцца.

І ні пры чым тут гены,
Што правяць жыццём і светам,
Паэтам няма замены,
Няма замены паэтам!

Калі паміраюць паэты,
Калі яны паміраюць,—
Няпраўда, што ўсе сакрэты
Нам яны пакідаюць.

Яны забіраюць з сабою
Талент свой адмысловы,
Кінуўшы ў мора людское
Свае несмяротныя словы.

Калі паміраюць паэты,
Што ні перад кім не гнуцца,—
У чалавецтва прасветы
На ўсе вякі застаюцца.

*1975*

* * *

Не верце гладзенькай дарозе,
Бо часам не туды вядзе.
Мне ўжо аднойчы давялося
Па ёй каціцца у бядзе.

Гула, раўла яна ў прасторы.
А я — нічый ні кум, ні сват,
Увесь дранцвеючы ад зморы,
Глытаў яе атрутны чад.

Не верце гладзенькім святошам,
Што толькі ведаюць — бубнець.
Пакуль яшчэ на свеце можам
Карпець над працаю і пець.

Іх языка асцерагайся,
Вітайся з імі, не вітайся,
Але заўсёды,— я прашу,—
Не раскрывай сваю душу.

У іх ёсць нешта за плячамі,
Чаго не ўцяміць нам — ані.
Не толькі ж з голаду — лычамі
Дзікі знішчаюць карані.

**Але не ўзняцца ім,**
**Не ўзняцца,**
**Адчуць каб нашу радасць, боль.**
**Паверце:**
**Нас яны баяцца.**
**І ўся у гэтым, мабыць, соль.**

*1976*

## ЗАПАВЕТ

— Рызыкуйце, хлопцы,
Рызыкуйце! —
Перад смерцю
Гаварыў паэт.—
Гінучы,
Усё адно — ратуйце
Ад пакут і здзекаў
Гэты свет.
Век канчаюць
Каля зор арлы,
Мышы паміраюць
У нары...

Зорны золак
За акном гайдаўся.
З сэрцам,
Нібы ў ранах нажавых,
Ён пайшоў.
Ні з кім не развітаўся,
Каб заўсёды
Жыць сярод жывых.

*1978*

## СЛОВА

Слова лечыць і калечыць.
Ёсць адно між розных слоў,
Што ў жыцці нас чалавечыць,
Слова светлае — любоў.

Свет зачэзне і панікне
У адчаі без надзей,
Як яно раптоўна знікне
На зямлі сярод людзей.

Дзе ж ты, ісціна святая?
З глыбіні далёкіх дзён
Слова гэта прарастае,
Як травінка праз бетон.

Перапёлка плача ў жыце,
У траве гудуць чмялі.
Не гнявіце, а любіце
Ўсё жывое на зямлі.

Каб часінай непазбежнай,
Дзе жыцця круты абрыў,
Адказаць было не грэшна:
Што любіў,
Каго любіў?

*1979*

* * *

Калі ты карыснае людзям зрабіў
І сам раструбіў на паўсвету,
Запамятай, колькі б на свеце ні жыў:
Яшчэ невядома,
Чым скончыцца гэта.

Калі ты ў адчаі, што знікла любоў,
Згараеш, нібыта камета,
Табе нагадаю, мой дружа, ізноў:
Яшчэ невядома,
Чым скончыцца гэта.

Калі, табе здрадзіўшы, скажуць сябры,
Што песня твая ўжо спета,
У роспачы да галавы не бяры:
Яшчэ невядома,
Чым скончыцца гэта.

І нават на чорнай, апошняй мяжы,
Як словы свайго запавету,
Паплечнікам верным ты мужна скажы:
— Яшчэ невядома,
Чым скончыцца гэта!

*1979*

* * *

Якія хмары ні плылі,
Якая ні пякла спякота,
Але не зніклі на зямлі
Надзея, радасць і пяшчота.

У грукатлівыя часы
І ў ціхія хвіліны зморы
Явы для сэрца, як лясы,
Як рэкі нашы і азёры.

Дзе вабіць кветкамі прасцяг,
Усім зямным вятрам адкрыты,—
Таемнай прагаю жыцця,
Нібы смугой, прастор спавіты.

Надзеяй дыхае прастор.
І ў радасці, нібы лістота,
Пад перазвон далёкіх зор
Спявае нам з табой пяшчота.

Сплываюць згадкі, нібы сон.
Яна цяпер заўсёды з намі,
Пяшчота ўсіх пакутных дзён,
Што мы перажылі з гадамі.

*1979*

## ЛЕНІН У ШУШАНСКІМ

Мароз
Над Шушанскім
Трашчыць.
Заснула ўсё.
Ды шпік не спіць.
Вядуць
Казённыя валёнкі
Яго да хаты.
Профіль тонкі
Там цьмяна ў шыбіне
Блішчыць.

Ізноў Ульянаў
Нешта піша.
Няўжо супроць
Вяльмож, цара?!
Марозная
Разносіць ціша
Па ўсёй Расіі
Скрып пяра.

Да шыбіны прамерзлай
Шпік,
Дыханне таячы,
Прынік.

І адхінуўся, недарэка,
І да акна прыліп ізноў,
Нібыта ўбачыў профіль веку
Без самаўладдзя і паноў.
«Дык хто ж у ссылцы? —
Думаў ён.—
Ці гэты —
Малады Ульянаў,
А можа, сам манарх Раманаў,
Што адгароджаны
Мурамі,
Штыкамі,
Турмамі,
Шпікамі
Ад люду беднага здавён?

А гэты, ссыльны,—
Між людзей.
Імперыю
З Сібіры бачыць.
Такія могуць перайначыць
І ход жыцця і ход падзей».

Шпік у парэпаны кажух
Уцягваў, здубянелы, шыю...

Агеньчык у акне не тух
І асвятляў усю Расію.

*1980*

## АПОШНІ КРУГ

*І. П. Мележу*

Цяжка чарадзе без важакоў...
На Палессі
Пасярод балота
Развітальны танец
Жураvoў
У вячэрні час
Перад адлётам.

Зор далёкіх
Чуючы харал,
Скачуць птушкі
Пад напеў ласкавы.
Не трывожаць
Гэты рытуал
Ні звяры самотныя,
Ні травы.

Зводдаль
Знерухомелы важак,
Прыгадаўшы,
Дзе ж сябры былыя,
Дзюбу ўскінуў.
Назірае, як
Скачуць ваяўніча
Маладыя.

Хай паскачуць
Сярод спелых траў.
Месца хопіць
Кожнаму на ўзлессі.
Хай спазнаюць,
Што і ён спазнаў
У халодных высях
Паднябесся.

Гэта не вясельны
Весні хмель,
Гэта развітальны
Танец горкі...
Жураўлісе
Чысціць журавель
Зорамі абвеяныя
Пёркі.

Ён яшчэ
Узніме ўвысь
Касяк.
Покліч кіне
На лугі і пожні.
І не скажа чарадзе
Важак,
Што ў жыцці ён робіць
Круг апошні...

*1980*

8 Зак. 4027

* * *

Маленькія вёскі лясныя
Між раскарчаваных палян —
Надзейныя сувязныя
Падпольшчыкаў і партызан,
Як хутка і вы пастарэлі!
Вас не амаладжвае час.
Ёсць кемпінгі, базы, матэлі,
Ды неяк нязручна без вас.
Дзе мудры ваш голас не моўкнуў,
Дзе пелі на плоце збаны,—
Крыж-накрыж забітыя вокны
І без дымкоў каміны.
Па святах з цэнтральнай сядзібы
З ранішняй самай зары
Сюды, пад сірочыя ліпы,
Ідуць і ідуць жыхары.
Дзяцей перамен і прагрэсу,
Што гэтак прыцягвае іх
Да хатак здрабнелых і лесу,
Да сцежак бацькоўскіх, былых?
Хоць вёскі маленькія знаюць:
Былога назад не вярнуць,—
Да самага ранку спяваюць,
Да самага ранку гудуць...

*1980*

## НАРАЧАНСКІЯ СОСНЫ

Нарачанскія сосны —
Сёстры Максіма Танка,
Ускінулі промні, як вёслы,
У блакіт азёрнага ранка.

Нарачанскія сосны —
Дум партызанскіх сведкі.
І сёння жалобна-узнёсла
Чакаюць гасцей з разведкі.

Крылом сваім ахінаюць
Нарач, нібы калыску.
І зоры да ранку гайдаюць
Нябёсаў і абеліскаў.

Нарачанскія сосны
У згодзе з вадою жывою,
Як вечнай паэзіі кросны,
Не знаюць спачыну-спакою.

Доўга яшчэ ім дзівіцца,
Гледзячы з круч далёка,—
Іх не змяла навальніца,
Не засушыла спёка.

Нарачанскія сосны
Кіруюць у новыя вёсны.
Не адтаптала б карэнне
Ім нашае захапленне.

*1981*

## ГЛЫБОКАЯ ПЛЫНЬ

*І. П. Шамякіну*

Ці аб высокай долі песняра
У глыбіні ляснога бездарожжа
Вы думалі над кручамі Дняпра,
Над плёсамі разлівістага Сожа?

Дзівосна неба ранішняга сінь
Гайдалася,
Спявала
І звінела...
Дум і пачуццяў велічная плынь
Ніколі ў Вашым сэрцы не мялела.

Напэўна, Вам асенняю парой,
Як журaўлі у вырай адляталі,
Пакінулі шчаслівае пяро,
Каб вы свой край
Высока апявалі.

Народных дум слуга і валадар,
Да сэрцаў нашых Вы праклалі трасу,
Пясняр,—
Нястомны працаўнік-вясляр
На ўсіх вірах і перакатах часу...

*1981*

* * *

Ціхутка трапеча на ліпе лісток.
Струменіцца водар мядовы.
І сцелецца ў змрок вечаровы
Кастра саладжавы дымок.

Давай жа, агеньчык, пабудзем адны
З сваёю нявечнаю доляй.
На свеце замнога журбы і маны,
Ды ўсё ж такі радасці болей:

І ў цёплым дыханні вячэрняй зары,
І ў шэпце лясной баравіны,
І ў слове, якое прамовяць сябры
Табе у цяжкія хвіліны.

Трапечуць над вогнішчам зоры і змрок.
І сэрцу [redacted] журбой не сцярпецца,
Пакуль яшчэ лечыць звычайны дымок
І светлае гэта цяпельца.

*1981*

* * *

Калі маркотных дум асцё
Пранізвала настрой міжволі,
Не наракаў я на жыццё,
Не праклінаў яго ніколі.

Спакоем зор, гаёў і ніў,
Задзірванелым шляхам вузкім
Я часта сам сябе лячыў
Пад родным небам беларускім.

Туга сплывала ў небыццё,
Знікалі ўсе мае напасці.
Ізноў раскрыльвала жыццё
Пачуцці радасці і шчасця.

Відаць, з нас кожнаму лягчэй,
Хоць мы пра гэта не гаворым,
Ісці з усмешкай да людзей,
А не з уласным нейкім горам.

*1981*

## ЗЯБЛІК

Нібы з восені забыты яблык,
На галінцы загайдаўся зяблік.

Ціха будзіць дрэва:
«Уставай!»
Цёплыя наслаўшы дні і ночы,
Квеценню сады абсыпаў май,
Шкоднікам яна мазоліць вочы.

Зяблік —
Гэта вам не салавей,
Трэлі рассыпаць не налаўчыўся,
Памагаць ён дрэвам навучыўся,
Каб жылі даўжэй і прыгажэй.

І калі засвішча ён здаля
Сарамліва і непрафесійна,—
Запрашае да сябе гасцінна
У адведкі кожнага галля.

А пасля, зашыўшыся ў гушчар,
Ён і сам паслухае з ахвотай,
Як чаруе салавей-пясняр
Сад зарэчны песеннай пяшчотай.

*1979*

* * *

Над Вязынкаю дождж імжэў
І вербы гнуліся, як хвалі.
Схаваўшыся пад шаты дрэў,
Яна і Ён узбоч стаялі.

Турысты ціўкалі ля іх
На розных еўрапейскіх мовах,
Хто ў джынсах-раструбах тугіх,
Хто ў найзвышмоднейшых абновах.

Гудзеў іншакраінны люд,
Сябе паводзіў, нібы дома.
Чужымі выглядалі тут
Юнак з дзяўчынаю, вядома.

Яны прыехалі здалёк
Сюды,
        у госці да Купалы,
Але зрабіць тут першы крок
Рашучасці ім не хапала.

Так часам сэрца зашчыміць:
Дарог адолеўшы багата,
Ты ўжо баішся адчыніць
Чамусьці дзверы роднай хаты.

Не бачылі Яна і Ён,
Расчуленыя краявідам,
Як неба вогкі парасон
Рабіўся светлым і блакітным.

І заціхаў турысцкі тлум,
І сонца з хмары выплывала,
Нібы ў святле высокіх дум
Вось-вось тут з'явіцца Купала.

*1979*

* * *

Як знерухомелыя цені,
На сельскіх могілках крыжы.
Я веру ў тайну абнаўлення
Травінкі, дрэва і душы.

Мураш спяшаецца дадому
З цяжкою ношай на спіне.
Тут нават птушкі па-другому
Спяваюць, як здаецца мне.

Тут прыпынілася вячыстасць.
Але чаму тады, скажы,
І даўкі смутак, і ўрачыстасць
Тут нараджаюцца ў душы?

Заб'ецца сэрца, і заные,
І знойдзе свой рытмічны лад,
Злавіўшы продкаў пазыўныя
Між гэтых сцішаных прысад.

Спасцігне шчасце ці няўдача
Мяне у бытнасці зямной,—
Я веру: бацькаў крыж заплача
Як не слязою, то расой...

*1980*

## КОНЬ БУЛАНЫ

Прыснілася:
Ускрай паляны
Праз светлыя беразнякі
Майго маленства конь буланы
Ляціць са мною да ракі.

Сапе услед табун шалёны —
Зямля дрыжыць ці гром грыміць?
Я перад ім — безабаронны,
Аж сэрца соладка шчыміць.

І мне нікуды не падзецца,
І не паспею войкнуць я,
Калі буланы конь спаткнецца
Або змахне на дол галля.

...Зямля вільнула раптам коса.
Рукамі сцяўшы галаву,
Я не ў далёкія нябёсы,—
Лячу ў высокую траву.

І не забудзецца ніколі:
Я добра бачу і цяпер,
Як нада мною —
Коні... коні...
Ляцяць, як праз жывы бар'ер.

Я акрыяў у роднай хаце.
У куце — свечка ледзь трымціць.
І бабка Лёкса кажа маці:
— А гэты — доўга будзе жыць...

Жыццёвым лёсам гартаваны,
Вяслую да наступных дзён.
Навошта ж снішся,
Конь буланы,
І што вяшчуе гэты сон?

*1979*

## ВЯРТАННЕ

Прыйшоў дамоў
Салдат з вайны.
Спытаў:
— Дзе жонка?
Дзе сыны?
Але суседзі ўсе маўчалі
І толькі жаласна ўздыхалі.

Прайшоўшы цяжкія дарогі,
Спазнаўшы радасць перамогі,
Салдат адчуў,
                    што дома ён
Няшчасцю трапіў у палон.

Трымалі ля яго салдаткі
Дзяцей сваіх за ручаняткі.
І ў кожнай галасіў пагляд:
— А наш?..
Ці вернецца назад?

Што адказаць?
Як супакоіць?
Час не заўсёды раны гоіць.
Салдат прызнацца не пасмеў,
Што ён адзін з сяла ўцалеў.

З яго равеснікаў-сяброў
Ніхто не вернецца дамоў...

Салдат маўчаў.
Салдат глядзеў.
І на вачах усіх сівеў.

*1980*

## ВЕРНАСЦЬ

Час ношу гадоў нанізвае
На плечы старой бабусі,
Што сорак гадоў выпісвае
«Піянер Беларусі».

Газету чытаў сын Коля —
Магіла ў далёкім полі.

Другі сын чытаў, Ягорка,—
У небе згарэў, як зорка.

Чытаў і трэці, Іван,—
Рана памёр ад ран.

Чыталі яшчэ два ўнукі —
Цяпер дактары навукі.

Не бабчына ў тым віна,
Што засталася адна.

Жыццё такое вялізнае.
Дні доўгія, як вякі.
Бабка газету нанізвае
На дзіцячыя матузкі.

Паштарку пра ўсё распытвае:
— Што новага ў вёсцы, жыцці?
Шчаслівая ты,
                    маладая...
Замуж трэба ісці.

А я — да сыноў мяркую.
Хвароба ўжо долу гне.
Вось сваё адвякую —
Ніхто не ўспомніць мяне...

Пярэчыць дзяўчына:
— А ўнукі!
Прыехалі б пагасціць...
І доўга па бабчыны рукі,
Дрыготкія рукі,
                    глядзіць.

*1979*

## БАЛАДА ПРА ПЯЦЬ ВАЗОЎ

Пяць вазоў крывавых,
Пяць вазоў
Карнікі спынілі на цвінтары
З трупамі ваяк-рабаўнікоў,
Што не ўніклі партызанскай кары.

З жудасцю
Глядзелі мы на іх,
На чужынцаў мёртвых і жывых.

На дзірван
Паклалі іх шнурком.
Пад гару сцякала кроў цурком,
І капалі карнікі панура
Тым, забітым, ля царквы магілы.

Дзеці, чулі мы ў кустах здаля:
Глеба і трашчала і скрыпела,
Нібы наша родная зямля
Забіраць чужынцаў не хацела.

Падганяў магільшчыкаў:
— Шнэль, шнэль! —
На гадзіннік
Гледзячы пры гэтым,

Танканогі, быццам журавель,
Афіцэр з патухлай цыгарэтай.

Раптам
Ён застыў, нібы сляпы,
Вочы аж заенчылі ў нябогі,
Калі з ям магільных
Чарапы
Пакаціліся яму пад ногі.

З чарапоў
Грудок на ўзгорку рос.
Як адчуўшы гэты здзек і сорам,
Праз акно царкоўнае
Хрыстос
На захопнікаў глядзеў з дакорам.

Чарапы звінелі, як званы,
Продкаў, што спачылі за цвінтарам.
З гнеўнаю усмешкаю яны
Карнікам глядзелі прама ў твары.

Не стрымаць пагляд іх вачаніц!
Аўтамат ускінуў нейкі фрыц,
З ачмурэлым жахам у вачах
Секанўў чаргой па чарапах.

Секанулі ўслед усе за ім.
Толькі пыл навокал, толькі дым.
Хаты захлынуліся ад слёз,
Прадчуваючы смяротны лёс.

**Адгулі падзеі,**
**Адгулі...**
**Я стаю тут з думкаю адною:**
**Хто няшчасце сее на зямлі,**
**І ў зямлі**
**Не знойдзе той спакою.**

**Адзічэў цвінтар.**
**Царквы няма.**
**У густых кустах чырваналозу**
**Часам па начах крычыць сава,**
**З самае вясны —**
**Таўкуцца козы.**

*1980*

## АКТАВЫ КАХАННЯ

### 1

Каханне — найцяжэйшая з пакут,
Мая добраахвотная пакута.
Калі ж ты мне свой вынесеш прысуд?
Нібы падсудны, прагну я прысуду.
У міг апошні здарыцца мо цуд,
І тое, што здавалася атрутай,
Каханне ператворыць у нектар
На ўсё жыццё для вязня гэткіх чар.

* * *

Я думаў, больш не прыйдзе да мяне
Каханне з цудадзейнасцямі тымі,
Што юнакоў — пытальнікамі гне,
А пасівелых — робіць маладымі.
Каханне, думаў, вусны мне замкне,
Шлях перайшоўшы з вёдрамі пустымі.
Няма, напэўна, горай пакарання,
Калі не свеціць над табой каханне.

* * *

І ты прыйшла, каханая, прыйшла,
І асвяціла дні мае цяжкія.
Няпраўда, што на свеце многа зла,
Што правяць светам толькі людзі злыя.

Плыву, плыву насустрач без вясла
Праз хвалі часу жорсткія, крутыя.
Каханне нас праз крыгаход тугі
Злучае, як паводка берагі.

* * *

Каханне не разветрыцца, як дым.
Хто закаханы, у жыцці той смелы.
Цікава, ці кахае падхалім
Ці гэты вось пранырлівец сапселы?
Паспачуваем жа хоць трохі ім,
У мітусні і сквапнасці ўспацелым.
Здавён не маюць сілы у каханні
Ні ўзнагароды, ні чыны, ні званні.

* * *

Але не будзь рахманы, як цяля,
Між тых, хто песціць смакатою шлункі.
Няхай твая жыццёвая ралля
Жыццю нясе ўраджайныя дарункі.
Адрозніваць вучуся спакваля
Атрутнага двурушша пацалункі.
Свайго кахання берагу свячэнне —
І гонар чалавечы, і сумленне.

* * *

Свяці, кахання чыстая зара!
Свяці — пачуццяў сэрцаў не азмрочвай —

Над доляй плугара і песняра
І над высокай доляю жаночай.
Усіх людзей пара табе, пара,
З'яднаць чароўнай сілаю прарочай.
Бо, сапраўды, на свеце без кахання
Жыцця няма — ёсць толькі існаванне.

2

Агні кахання — вечныя агні.
Яны нікому з нас не слепяць вочы.
Шчаслівым сэнсам напаўняюць дні,
Пяшчотай вабнай скарачаюць ночы.
Загадкава гучыць у цішыні
Гарачы, неспатольны шэпт жаночы.
Бянтэжыцца расчулены юнак,
Упершыню адчуўшы дзіўны смак.

* * *

Ёсць у каханні нейкая мяжа.
За гэтай патаемнаю мяжою
Зліваецца ў адно твая душа
З душой каханай, чыстаю душою.
Як ток, між вамі прабяжыць спярша,
Каб адарыць вас яркаю іскрою,
Чароўнае адзінства захаплення,
Што абнаўляе свет і пакаленні.

* * *

На ўсім — адбітак сонца і вясны.
У закаханых прыгажэюць твары.
Шчаслівы, хто багаты без казны,
Каго не абышлі кахання чары.
Шануйце гэту крохкасць навізны,
Няхай бурчаць няўдачнікі і скнары,
Аматары дакучлівых натацый,
Ахвяры ўсіх уласных імітацый.

* * *

Шматбальныя ў каханні ёсць штуршкі,
Страшнейшыя любога землятруса,
Як ад сумненняў збегчы пацянькі
Прыходзіць невыносная спакуса.
Пільнуйце, каб нянавісці вянкі
Каханне не панесла пад прымусам.
Каханне — і свабода і няволя,
Крыніца смутку, радасці і болю.

* * *

Каханне — сад. Каб з завязі плады
Нарэшце наліліся спелым сокам,
Змагаюцца галіны праз гады
Са спёкай, маразамі, чарвятокам.
Каб выстаяць пад навіссю бяды
І перадаць жыццё сваім патомкам,

Прашу: аберагайце гэты сад
Ад марнатраўства, зайздрасці і страт.

* * *

Агні кахання — вечныя агні.
Без іх — у чалавецтва лёс сірочы.
Нам свецяць сонца, зоры з вышыні,
Але ярчэй — святло душы жаночай.
Жыццё ты за няўдачы не кляні,
Яго не па гадзінніку пясочным,
А па каханні нам адмераў час.
І іншай долі не бывае ў нас.

*1980*

## ПАТРЭБНА МНОГА ПЕРАЖЫЦЬ...

Зімовы дзень звініць, як звон,
Завейнай сцюжай загайданы.
Скаваў палеткі і паляны
Марозна-летаргічны сон.
Ад светлай музыкі снягоў,
Якой так навакол замнога,
Расце, расце мая любоў
Да свету нашага зямнога.
Цячэ жыццё маё, цячэ
І праз віры, парогі носіць.
Дзе — спёкай сэрца апячэ,
Дзе — сцюжай злоснай прымарозіць.
Але і там, на віражы,
Дзе я успыхваў, як камета,
Не абрывалася ў душы
Мелодыя зямнога свету.
Патрэбна многа пераЖыць,
Патрэбна многа перабачыць,
Каб свет суровы палюбіць
І ўжо любоў не перайначыць.
Каб каля родных берагоў,
Зачараваны снежным дзівам,
Адчуць пад музыку снягоў
Сябе і вольным і шчаслівым.

*1982*

## БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА

Анатоль Грачанікаў нарадзіўся 8 верасня 1938 года ў вёсцы Шарпілаўка Гомельскага раёна, дзе і скончыў сярэднюю школу. У Гомельскай жа вобласці ў малым узросце перажыў разам з маці і старэйшым братам Рыгорам смяртэльныя жахі фашысцкай акупацыі, цудам застаўшыся ў жывых...

Скончыў Беларускі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту (1960) і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1969).

Працаваў інжынерам Гомельскага рамонтна-механічнага завода (1960—1962), у апараце Гомельскага АК ЛКСМБ, першым сакратаром Гомельскага гаркома камсамола. Дэлегат XV з'езда ВЛКСМ.

Пасля заканчэння Вышэйшых літаратурных курсаў пераехаў у Мінск. Далей была праца ў рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва», у апараце Саюза пісьменнікаў БССР, у рэдакцыях часопісаў «Вясёлка» і «Бярозка». Зараз Анатоль Грачанікаў — галоўны рэдактар часопіса «Маладосць».

Друкавацца пачаў у 1957 годзе. Аўтар кніг — «Магістраль» (1964), «Круглая плошча» (1971), «Грыбная пара» (1973), «Начная змена» (1975), «Дрэва на выспе» (1977), «Калі далёка ты» (1979), «Палессе» (1983). Піша таксама для дзяцей: «Казка пра Івана-ганчара і пачвару цара» (1980), «Валерка і лятаючая талерка» (1983) і інш.

Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі і Усесаюзнага літаратурнага конкурсу імя М. Астроўскага. Член КПСС.

Творы яго перакладаліся на многія мовы братніх народаў СССР, а таксама на англійскую, французскую, балгарскую, польскую, славацкую і інш.

ЗМЕСТ

**Грачанікаў А.**

Г 78 Верасень: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1984.— 142 с., іл.— (Б-ка беларус. паэзіі).

У пер.: 65 к.

Імя Анатоля Грачанікава даўно вядома аматарам паэзіі. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі і Усесаюзнага літаратурнага конкурсу імя М. Астроўскага, паэт добра ведае жыццё, і вершы ягоныя заўсёды надзённыя.

Г $\frac{4702120200-060}{M302(05)-84}$ 125—84

ББК 84Бел7

Бел2

Библиотека белорусской поэзии

Анатолий Семенович Гречаников. СЕНТЯБРЬ. Стихи. Минск, издательство «Мастацкая літаратура». На белорусском языке.

Рэдактар Р. І. Барадулін. Франтыспіс М. А. Веціка. Афармленне В. С. Юрчанкі. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар А. Б. Барадзіна. Карэктар Я. Ф. Харко.

ІБ № 1939

Здадзена ў набор 07.09.83. Падп. да друку 22.02.84. АТ 05561. Фармат $60\times90^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 4,5. Ум. фарб.-адб. 5,63. Ул.-выд. арк. 3,87. Тыраж 3000 экз. Зак. 4027. Цана 65 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.